МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№12 (128)
снежань 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ АДЗНАЧЫЛІ 82-ГОДДЗЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Імпрэзу зладзілі клуб "Беларусы Пецярбурга" і Саюз пісьменнікаў Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці.

*Працяг на стар. 3*

### КАБ СТВАРЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ Ў ЛОНДАНЕ, КІТАЕЦ ВЫВУЧЫЎ НАШУ ГІСТОРЫЮ

Парафіянін беларускай грэка-каталіцкай царквы Св. Пятра і Паўла ў Лондане, Цзыўай Рафаэль захапляецца гісторыяй Беларусі, вывучае традыцыйную беларускую архітэктуру ды распрацоўвае праект новай беларускай царквы, якая мае паўстаць на поўначы Лондана ў бліжэйшай будучыні.

*Працяг на стар. 4*

### БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ "БЯЗМЕЖЖА"

У сярэдзіне снежня на Беласточчыне адбылося літаратурнае ”Бязмежжа-2012”, якое арганізоўвае Праграмная рада Тыднёвіка "Ніва" і Беларускі Саюз у Польшчы.

*Працяг на стар. 5*

### ЯКАЯ БЕЛАРУСКАЯ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ ПАТРЭБНАЯ АФІЦЫЙНАМУ МІНСКУ?

Нядаўнія адмовы з выдачай візаў для ўезду ў Беларусь актыўным дзеячам беларускай меншасці ў Польшчы Алене Глагоўскай і Яўгену Вапу, здавалася б, мелі шараговае значэнне, бо кожная дзяржава мае права самастойна вырашаць, каго ўпускаць на сваю тэрыторыю.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ХВЕДАР НЮНЬКА: БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ СВАЁЙ ДЗЯРЖАВАЙ КІНУТЫЯ

Правядзенне запланаванага на наступнае лета чарговага з'езда беларусаў свету ў Мінску можа ўскладніцца. З незразумелых прычынаў беларускія амбасады перасталі даваць візы найбольш актыўным прадстаўнікам беларускай дыяспары.

Адным з неўязных у Рэспубліку Беларусь нядаўна стаў старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве, сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Хведар Нюнька — госць праграмы ”Вольная студыя” на Радыё "Свабода".



*Хведар Нюнька*

— Спадар Хведар, вам неяк патлумачылі прычыны адмовы ў візе?

— Нічога мне не патлумачылі. Больш за тое, пра мае праблемы з візай ведаў сам амбасадар Дражын. Паколькі я не меў кантакту з беларускай амбасадай у Літве, то сам я туды не звяртаўся. Звярталася Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", бо я ўваходжу ў яе раду і планаваў удзельнічаць у наступным з'ездзе. Мне было адмоўлена ў візе. Падчас выпадковай сустрэчы ў Доме нацыянальных меншасцяў з амбасадарам Беларусі я ў яго проста спытаўся: чаму мне не даюць візу? Калі ёсць устаноўка наконт мяне з вышэйшых інстанцый, то мне трэба пра гэта сказаць. Чаму трэба маўчаць? І амбасадар сказаў, што віза будзе. Наша сустрэча адбылася яшчэ да адмовы. Відаць, не ад яго залежыць...

— У Вільні існуюць два аб'яднанні беларусаў — вашае таварыства і "Сябрына", якой кіруе Раман Вайніцкі. Вы з ім не сышліся ў ацэнцы палітычнага ладу ў Беларусі. А ці засталося нешта, што вас па-ранейшаму аб'ядноўвае?

— Нас падзяліла палітыка таго рэжыму, які знаходзіцца пры ўладзе ў Беларусі. А ўвесь час раней беларусы дзейнічалі заадно, былі згуртаваныя. А цяпер ёсць "чэсныя" і "нячэсныя", як і ў самой Беларусі. Але мы тут стараемся кантактаваць. Менавіта Раман Вайніцкі пры нашай сустрэчы, хоць ён у акцыях пратэсту не ўдзельнічае, сказаў, што Беларусь у нас адна, і дзяліць яе няма патрэбы. Таму важныя гістарычныя даты, прыкладам, Дзень Волі мы адзначаем разам пад нашай гістарычнай сімволікай — бел-чырвона-белым сцягам і Пагоняй. Скажам, сёлета Дзень Волі ў Вільні працягваўся цэлы тыдзень. Быў нават арганізаваны аўтапрабег па ўсіх вуліцах гораду, машынаў было каля двух дзясяткаў. І гэта вельмі прыгожа выглядала, бо ўсе яны былі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Дык вось, у гэтым аўтапрабегу ўдзельнічаў таксама і Раман Вайніцкі на сваёй машыне.

— Вы амаль усё жыццё пражылі ў Літве. Як сёння беларусы тут пачуваюцца — у Вільні, на Віленшчыне?

— На жаль, дзякуючы палітыцы, якую праводзіць кіроўны ў Беларусі рэжым, Віленскі край быў кінуты. Хоць Віленшчына дала нямала выдатных беларускіх дзеячоў нацыянальнага маштабу. Дастаткова назваць Браніслава Тарашкевіча. Святое месца пустым не бывае, таму беларускую пасіўнасць выкарысталі іншыя нацыянальнасці. Я маю на ўвазе найперш тутэйшых палякаў. Яны маюць велізарную падтрымку з Польшчы, яны сёння перамагаюць тут на выбарах і ўваходзяць у парламент. Так што польская меншасць тут, скажам так, пры

ўладзе — як у асобных раёнах, так і ў самім горадзе. Палякі маюць значныя дасягненні: гэта вялізная школа імя Яна Паўла II, гэта Дом польскай культуры — Польшча выдаткавала на яго будаўніцтва 9 мільёнаў даляраў! Мабыць, так і павінна дзейнічаць разумная дзяржава, якая клапоціцца пра сваіх землякоў. Да беларусаў тут адносіны з боку метраполіі не тое што адмоўныя... Яны проста — абыякавыя. Паўтаруся, мы тут сваёй дзяржавай кінутыя, і сёння нашае становішча як ніколі дрэннае. Возьмем такое параўнанне з гісторыі. У 1922 годзе на выбарах па Віленскім краі беларусы змаглі даць 14 дэпутатаў на польскі Сойм. А што мы маем сёння? У радзе самакіравання Вільні няма ніводнага беларуса, у Сойме літоўскім — ніводнага беларуса, у Еўрапарламенце ад Літвы — ніводнага беларуса.

— Дык што, мае месца нейкая дыскрымінацыя?

— Не, дыскрымінацыі беларусаў мы не адчуваем. Я ўжо 70 гадоў жыву ў Літве, і мяне ніхто не дыскрымінуе. Няма таго, што мы гаворым па-беларуску, і нас нехта за гэта пераследуе. Але, з іншага боку, на нас літоўскія ўлады глядзяць як на цыганоў, азербайджанцаў і г.д. Мы не ў найлепшым становішчы, хоць паводле гісторыі мы павінны займаць другое месца пасля літоўцаў. У літоўскіх падручніках па гісторыі беларусы наогул не ўспамінаюцца. Я лічу — так быць не павінна. Павінна адбыцца нейкая канферэнцыя гісторыкаў — беларускіх і літоўскіх, каб знайсці прымальны для ўсіх пункт гледжання на гэтую справу. Дык хто ж такія былі беларусы ў Вялікім Княстве Літоўскім? Горшага становішча ў беларусаў Літвы, чым сёння, ніколі раней не было. Вось вынік той палітыкі, якую праводзіць сёння антыбеларускі рэжым у Мінску.

— Але і ў неспрыяльных умовах вашае таварыства нямала зрабіла. Калі ідзеш па Вільні, прыемна бачыць мемарыяльныя дошкі Янкі Купалы, Браніслава Тарашкевіча... Дарэчы, колькі памятных месцаў вы адзначылі?

— Дзякуючы намаганням менавіта Таварыства беларускай культуры на аснове самаахвярнай працы мы паставілі ў горадзе 10 мемарыяльных шыльдаў і нямала помнікаў беларускім дзеячам на Ліпаўскіх могілках і на Росах. Улічваючы тое, што мы не атрымліваем ніякай дапамогі з Беларусі, а з боку літоўскіх уладаў маем дапамогу толькі сімвалічную, то больш мы зрабіць і не маглі. Нашыя апаненты заяўляюць, што Хведар Нюнька — практычны чалавек, не дурнейшы за іншых, мог бы заняцца бізнесам, быць заможным чалавекам... Таму ён не працуе дарма, ён адпрацоўвае амерыканскія грошы. Але я павінен сказаць, што не бачыў тых амерыканскіх грошай, ніадкуль я нічога не атрымоўваю, акрамя сваёй пенсіі. Ёсць невялікі гурток аднадумцаў, адданых беларускіх патрыётаў, і мы працуем не дзеля нажывы. Вось і цяпер сваімі сіламі мы падрыхтавалі да выдання кнігу "Беларусы ў Літве: учора і сёння". Мы спрабавалі на гэты праект атрымаць падтрымку ад літоўскай дзяржавы — безвынікова. Хоць я захаваў добрыя адносіны з дэпутатамі Сойму, Еўрапарламенту, з самім урадам Літвы. Ужо цягам 20 гадоў мы спрабуем вырашыць пытанне з Музеем імя Івана Луцкевіча. У гэтай справе мы прайшлі ўсе інстанцыі, усе ступені ўлады, якія ёсць у Літве. На апошняй сустрэчы ў Міністэрстве культуры я сказаў, што калі нават застанецца адзін беларус, гэтае пытанне будзе падымацца, і яно абавязкова будзе вырашана.

— Вашыя дзеці, хоць яны грамадзяне Літвы, застаюцца беларусамі, гавораць па-беларуску. Што не дае беларусу за мяжой канчаткова асімілявацца?

— На жаль, беларусы асімілююцца лягчэй і хутчэй, чым іншыя нацыянальнасці. Скажам, літовец, які з'язджае на працу за мяжу, не парывае каранёў, не забывае сваёй мовы. Сёння, прыкладам, у Ангельшчыне існуе 30 літоўскіх школаў! А колькі за мяжой школаў беларускіх? Школа і касцёл ці царква — вось што робіць чалавека нацыянальна свядомым. І гэтага нам сёння не хапае ў Беларусі.

*Паводле "Радыё Свабода"*
*Гутарку цалкам чытайце*
*на сайце zbsb.org*

# ГАСЦЕЙ СУСТРАКАЦЬ – НЕ ПРЫВЫКАЦЬ!

І сапраўды, не ўпершыню сустракае гасцей фестываль беларускай народнай творчасці "У гасцях у Лявоніхі", які сёлета праводзіцца ўжо ў 10-ы, юбілейны, раз. Гэтым разам імпрэзы адбываліся ў с. Баравое Новасібірскага раёна.

Не зусім звычайным быў пачатак свята. Перапоўненае фае, дзе традыцыйна праходзіць забаўляльна-гульнёвая праграма, ператварылася ў сапраўдную мастацкую майстэрню. Наведнікі не толькі любаваліся шэдэўрамі народных майстроў, але і маглі самі паўдзельнічаць у іх вырабе. Гэта былі сапраўдныя майстар-класы, якія праводзілі прафесіяналы з сельскіх клубаў, дзіцячых школ мастацтваў і культурных цэнтраў.

Хахламскі роспіс, вязанне кручком, папераластыка, драўляны роспіс, саломапляценне – усё гэта выраблялася на вачах у гледачоў і стварала маляўнічую экспазіцыю, дзе фантазія аўтараў выяўлялася на ўсю моц. Перапляталіся ў творах майстроў і беларускія, і рускія матывы, пры гэтым кожны стараўся паказаць свой характар і каларыт.

Асабліва хочацца адзначыць цікавасць да свята дзяцей. Вясёлае маляўнічае прадстаўленне паказаў дзіцячы ўзорны тэатр лялек з Верх-Тулы. Дзяцей і дарослых зацягваў у карагод ансамбль "Сібірскі ўзор" з сяла Смаленка Машкоўскага раёна. З яго выступу і пачаўся святочны канцэрт ужо на сцэне, у інтэр'ерах беларускай хаты. Калектыў, дарэчы, зусім нядаўна пабываў у Беларусі на рэспубліканскім фестывалі нацыянальнай песні. "Прывітанне" ад гістарычнай Радзімы, а затым і беларускія песні ў выкананні ансамбля здолелі развеяць настальгію па родным краі, якая прагучала са сцэны ў дыялогу Лявона і Лявоніхі: "А памятаеш, жылі мы на Палессі, слухалі родныя песні, хоць разок бы там пабываць..."

І зусім ужо развеяўся сум нашых герояў, калі загучала вясёлая "Лявоніха", пад якую яны не ўтрымаліся і таксама пусціліся ўпрысядкі разам з танцорамі. Дасціпныя рэплікі, звыклыя кпіны Лявона і Лявоніхі ўдала перамяжоўваліся з песнямі і танцамі гасцей. Апладысменты ў перапоўненай зале не змаўкалі.

З не меншай цеплынёй сустракалі гледачы і артыстаў з суседніх гарадоў. З Томска быў запрошаны ансамбль беларускай песні "Барвіначка", кіраўнік іркуцкай аўтаноміі беларусаў Алег Рудакоў прывёз аж два калектывы – ансамбль "Ленушка" і ансамбль аўтэнтычнай песні "Крывічы", які пад крыкі "брава" па-майстэрску выканаў традыцыйныя беларускія песні.

Фінал свята, калі ў выкананні салісткі Цэнтра Анастасіі Трубянковай і ўсіх удзельнікаў урачыста прагучала вядомая песня "Белая Русь", выклікаў велізарны эмацыйны водгук у гледачоў. І таму арганічнымі сталі заключныя словы Лявона і Лявоніхі: "Гасцей сустракаць – нам не прывыкаць, а беларуская хата заўжды будзе стаяць на гасціннасці і хлебасольстве мацней, чым на любым падмурку".

*Паводле Людмілы Бляўскай,*
*Новасібірскі цэнтр беларускай культуры*

# У Санкт-Пецярбургу адзначылі 82-годдзе Уладзіміра Караткевіча

Клуб “Беларусы Пецярбурга” і Саюз пісьменнікаў Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці 8 снежня адзначылі 82-ую гадавіну з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка і паэта Уладзіміра Караткевіча. На вечар успамінаў сабралася каля 20 чалавек – прадстаўнікі клубу беларусаў, творцы. Мерапрыемства праходзіла ў доме культуры горада Паўлаўска (недалёка ад Санкт-Пецярбурга).



*Лявон Габрусёнак*

Распачаў вечарыну прэзідэнт Саюза пісьменнікаў Аляксандр Воцінаў. Ён адзначыў, што ў Расіі мала ведаюць культуру суседняй Беларусі, лічаць яе часткай расійскай культуры. Аднак, на яго погляд, гэта не адпавядае рэчаіснасці. Культура Беларусі вельмі самабытная і ўнікальная. Прыкладам можа паслужыць пісьменнік і паэт Уладзімір Караткевіч. Аляксандр прыгадаў, як шмат гадоў таму ў адным з часопісаў ён чытаў твор Караткевіча і ўжо тады адзначыў вялікі талент творцы. Прэзідэнт Саюза пісьменнікаў адзначыў, што ў Расіі імя Караткевіча амаль невядома, але яго творы вартыя, каб іх ведалі і чыталі.

Беларускі спявак Лявон Габрусёнак узгадаў, як шмат гадоў таму ён пазнаёміўся з Уладзімірам Сямёнавічам. Караткевіч вельмі захапляўся народнай творчасцю. Даведаўшыся аб тым, што Лявон спявае беларускія народныя песні, літаратар папрасіў выканаць адну з іх – песню “Рэчанька”. Гэтую песню Лявон з ахвотаю выканаў і гэтым разам.

Беларускі журналіст Андрэй Шэнтаровіч расказаў пра жыццё і творчасць Уладзміра Сямёнавіча. Ён расказаў пра найбольш слынныя творы Караткевіча “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Чорны замак Альшанскі”, “Каласы пад сярпом тваім”. Раманы і вершы Караткевіча разам з творамі Васіля Быкава, па словах журналіста, аказалі вялікі ўплыў на самаўсведамленне беларусаў як нацыі.

*Паводле Ігара Станкевіча*

# У Кішынёве прайшоў вечар памяці Марка Шагала і Міхаіла Савіцкага

Вечар памяці беларускіх мастакоў Марка Шагала і Міхаіла Савіцкага адбыўся 9 снежня ў Кішынёве (Малдова). Мерапрыемства было прымеркавана да 125-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала і 90-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Савіцкага.

Вечар, арганізаваны беларускай суполкай Малдовы, прайшоў з удзелам прадстаўнікоў пасольства Беларусі ў Малдове і Бюро міжэтнічных адносін рэспублікі.

З відэапрэзентацыяй пра творчасць вялікіх майстроў жывапісу перад беларускімі суайчыннікамі і іншымі ўдзельнікамі мерапрыемства выступіў намеснік старшыні беларускай суполкі, член Саюза мастакоў Малдовы Вячаслаў Ігнаценка. Ён расказаў пра цікавыя факты з біяграфій Марка Шагала і Міхаіла Савіцкага, зрабіў прафесійны аналіз некаторых работ знакамітых беларускіх жывапісцаў.

Як адзначыў у сваім выступе старшыня беларускай суполкі Малдовы Юры Статкевіч, творчасць Марка Шагала і Міхаіла Савіцкага рознапланавая, але без сумневу з'яўляецца гонарам кожнага беларуса незалежна ад таго, дзе ён жыве. Паводле яго словаў, такія мерапрыемствы і ў далейшым будуць праводзіцца як у рамках абшчыны, так і з прыцягненнем шырокага кола зацікаўленых асобаў.

Сёлета ў Беларускай абшчыне Малдовы ўжо прайшоў цэлы шэраг мерапрыемстваў і творчых вечароў, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння беларускіх класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка, 85-годдзю Алеся Адамовіча.

У іх бралі актыўны ўдзел і дзеці беларусаў Малдовы, якія наведваюць у пасольстве Беларусі нядзельную школу па вывучэнні мовы, літаратуры, гісторыі, культуры, традыцый і звычаяў сваёй этнічнай Радзімы.

*Юры Статкевіч*

# Дні Францыска Скарыны прайшлі ў Празе

Праект прымеркаваны да 495-годдзя з дня выдання вялікім асветнікам у Празе першай друкаванай Бібліі на старабеларускай мове, а таксама 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Чэхіяй.

Адбыліся канцэрты арганнай і камернай музыкі. Увазе публікі былі прапанаваныя творы сусветнай класікі і сучасныя беларускія кампазіцыі ў выкананні салістаў полацкага Сафійскага сабора і Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра.

Прайшло таксама ўскладанне кветак да памятнай шыльды Францыску Скарыну ў Славянскай бібліятэцы ў Клементынуме, найстарэйшай у Еўропе, а таксама да помніка беларускаму асветніку ў пражскім раёне Градчаны.

Арганізатарам Дзён Францыска Скарыны ў Празе выступіла пасольства Беларусі ў Чэхіі пры спрыянні Міністэрства культуры і Беларускага саюза кампазітараў.

*Паводле БелТА*

# У Шанхаі прайшоў творчы вечар у гонар Купалы і Коласа

У Цэнтры вывучэння Беларусі пры Усходнекітайскім педагагічным універсітэце ў Шанхаі адбыўся творчы вечар, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Аб гэтым паведамілі ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў Беларусі.

У мерапрыемстве, арганізаваным генеральным консульствам Беларусі ў Шанхаі, узялі ўдзел прарэктар Усходнекітайскага педагагічнага ўніверсітэта, дырэктар Цэнтра вывучэння Беларусі, прафесарска-выкладчыцкі склад, беларускія і кітайскія студэнты.

На творчым вечары гучалі вершы класікаў на беларускай і кітайскай мовах, а таксама былі падведзены вынікі конкурсу перакладаў.

Цэнтру вывучэння Беларусі перададзены кнігі беларускіх аўтараў — усяго 120 выданняў.

Акрамя таго, ва Усходнекітайскім педагагічным універсітэце прадстаўленая экспазіцыя аб жыцці і творчасці класікаў беларускай літаратуры, гісторыі і сучасным развіцці Беларусі.

*БелТА*

# КАБ СТВАРЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ Ў ЛОНДАНЕ, КІТАЕЦ ВЫВУЧЫЎ НАШУ ГІСТОРЫЮ

*Якое дачыненне, запытаецеся вы, ён мае да Беларусі? Большае, чым асноўная маса нашых суайчыннікаў, што аднойчы прайшоўшы эміграцыйны кантроль, бясследна знікла ў тумане Альбіёна. Парафіянін беларускай грэка-каталіцкай царквы Св. Пятра і Паўла ў Лондане, Цзыўай Рафаэль захапляецца гісторыяй Беларусі, вывучае традыцыйную беларускую архітэктуру ды распрацоўвае праект новай беларускай царквы, якая мае паўстаць на поўначы Лондана ў бліжэйшай будучыні.*

— Я нарадзіўся ў Кітаі. Аднак калі мне было тры гады, сям'я пераехала ў Ганконг, які тады яшчэ падпарадкоўваўся Вялікабрытаніі, — распавядае Цзыўай Рафаэль. — Там я скончыў ангельскую школу і ўніверсітэт па спецыяльнасці "архітэктар". Пасля атрымаў паўнавартасны дыплом архітэктара ў Лонданскім універсітэце Метраполітэн. Цяпер кірую невялікай архітэктурнай кампаніяй ды выкладаю ў Мідлэсэкскім універсітэце ў Лондане.

— Калі ты ўпершыню пачуў пра Беларусь ці беларусаў?

— Пра Беларусь чуў даўно і нямала. Як і многія кітайцы, выхаваныя ў духоўнай сімпатыі да братоў па камуністычным лагеры, я заўжды быў натхнёны СССР. Праўда, у кітайскай мове слова "Беларусь" памылкова замацавалася як "Белая Расія". З гэтай прычыны многія блытаюць беларусаў з белымі рускімі — праціўнікамі бальшавізму ў грамадзянскай вайне ў Расіі.

Пазней я чуў пра першую лэдзі Тайваня, якая паходзіла з-пад Оршы (Фаіна Вахрава — *К.Л.*). Праўда, не ведаю, ці многія асацыявалі яе з Беларуссю.

Ваша краіна дня мяне была нібы ахутана заслонай таямнічасці. Расія і Белая Расія ў маёй свядомасці асацыяваліся з Паўночнай і Паўднёвай Карэяй. Я думаў, што гэта адны і тыя ж людзі, падзеленыя палітычна.

*Наш герой выступае на ўрачыстым адкрыцці пасля рэканструкцыі "Марыйнага дома" ў траўні 2012.*

— Як жа лёс звёў цябе з беларусамі ў Вялікабрытаніі?

— У 2007 годзе Беларуская каталіцкая (уніяцкая) місія ў Англіі прадавала адзін з будынкаў у Лондане, а я працаваў на фірму, што гэты будынак набывала. Тады я пазнаёміўся з айцом Сяргеем Стасевічам. Ён з ахвотай зладзіў для мне экскурсію па беларускім цэнтры, распавёў гісторыю місіі. Паколькі жыў паблізу, стаў рэгулярна яго сустракаць, наведваць мерапрыемствы, пазнаёміўся з беларускай суполкай.

У Ганконгу я вучыўся ў каталіцкай школе, але не быў хрысціянінам. У Лондане пачаў наведваць англіканскую царкву недалёка ад дома. Айцец Сяргей Стасевіч шмат распавядаў пра



каталіцтва і праваслаўе, пазычаў кнігі пра ўсходняе хрысціянства. Я зацікавіўся, стаў рэгулярна наведваць нядзельныя богаслужбы ў беларускай грэка-каталіцкай царкве Святых Пятра і Паўла і ўрэшце прыняў там хрост.

— Ты не разумееш ні беларускай, ні рускай мовы. Ці камфортна пачуваешся сярод тутэйшых беларусаў?

— З гледзішча ментальнасці і многіх звычак, што фармуюцца ў дзяцінстве, у нас з беларусамі шмат падобнага. Я нарадзіўся ў краіне, дзе кіроўнай была кампартыя, жыў у шматкватэрным панельным доме... Традыцыі грэка-каталіцкай царквы, канечне, былі для мяне адкрыццём. Моўны бар'ер істотны, але спадзяюся знайсці спецыяліста, які дапаможа мне вывучыць беларускую.

"Цяжкасці перакладу" (не забывайцеся, што тут усе валодаюць ангельскай) кампенсуюцца беларускай добразычлівасцю, гасціннасцю. У некаторых культурах прынята вітаць адно аднаго пры першай сустрэчы ледзь не абдымкамі. Але гэта толькі жэст, які не азначае, што чалавек ставіцца да цябе неяк асабліва. Беларусы пры сустрэчы вельмі стрыманыя. Але і цэняць сяброўства яны нашмат болей. Калі беларус называе некага сябрам, гэта сапраўды блізкі чалавек, а не проста адзін з дзясяткаў знаёмых.

Мой досвед у зносінах з брытанскімі беларусамі быў падмацаваны сёлетняй паездкай у Беларусь. Людзі рабілі ўсё магчымае, каб дапамагчы мне, удзяліць ўвагу. Нават калі гэта азначала для іх дадатковыя цяжкасці і праблемы. Я, сапраўды, магу назваць беларускіх знаёмых сябрамі, бо перакананы, калі буду ў бядзе, яны мне дапамогуць. Не магу сказаць падобнае пра большасць сваіх знаёмых з іншых краінаў. Канечне, я раблю высновы толькі на падставе тых людзей, з кім пазнаёміўся. Напэўна, не ўсе такія. Гэтак, падчас знаходжання ў Беларусі мне ледзь не надавалі кухталёў у аўтобусе, калі я паспрабаваў патлумачыць двум хлапцам нападпітку, што яны занялі маё месца.

— Але ты не проста наведваеш беларускую царкву і культурныя імпрэзы. Цяпер ты працуеш над праектам новай беларускай грэка-каталіцкай царквы ў Лондане...

— Пра планы пабудовы новай царквы (цяпер яна месціцца ў памяшканні былой грамадскай залы) упершыню пачуў гады чатыры таму. З розных прычын справа не вельмі рухалася з месца, і аднойчы айцец Сяргей прапанаваў мне паспрабаваць распрацаваць праект. На той момант я нічога не ведаў пра беларускую архітэктуру. Пачаў чытаць, вывучаць літаратуру. Перагледзеў каля двух дзясяткаў патэнцыйных дызайнаў для будучай царквы. Ніводзін з іх не пасаваў, таму сёлета я выправіўся на Беларусь, каб на ўласныя вочы паглядзець на старадаўнія беларускія бажніцы. Прычым галоўным аб'ектам майго інтарэсу было драўлянае дойлідства. Я пабываў у Мінску, Лідзе, Івацэвічах, а таксама ў вёсках і мястэчках на Гарадзеншчыне і Берасцейшчыне (Ганчары, Мураванка, Аброва, Бялавічы, Бусяж, Косава).

— Што значыць ніводзін з папярэдніх дызайнаў "не пасаваў"?

— Гісторыя Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі бярэ пачатак у канцы 1940-х. І ўвесь гэты час яна звязаная з асвечаным месцам у лонданскім раёне Паўночны Фінчлі. Тут месціцца Беларускі рэлігійны і культурны цэнтр імя святога Кірылы Тураўскага ўключна з легендарнай Скарынаўскай бібліятэкай і Марыян Хаўз ("Марыйным домам"), дзе жыла цэлая група беларускіх святароў усходняга абраду. Гэта адзін з цэнтраў беларускага жыцця за мяжой, якое дзесяцігоддзямі пры-

➲

цягвала інтэлектуалаў з усяго свету.

Таму перш чым узяцца за распрацоўку праекта беларускай царквы, я мусіў зразумець, што значыць слова "беларуская". Выявілася, што гэта не такая простая задача, бо Беларусь — гэта свайго кшталту Атлантыда. У цяперашнім разуменні яна не існавала на палітычнай мапе да 1918 года. Але людзі жылі на гэтай зямлі тысячы гадоў. Чым болей я чытаў, тым болей я даведаўся, што менавіта продкі цяперашніх беларусаў складалі аснову жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Яны былі носьбітамі развітай еўрапейскай культуры, чым сёння могуць ганарыцца. І грэка-каталіцкая ці ўніяцкая царква была не проста самай распаўсюджанай рэлігіяй на гэтых землях, але і неад'емным складнікам гэтай культуры. Аднак з таго часу, як Расійская імперыя падначаліла беларускія землі ды ліквідавала унію (1839), уніяцтва выпала з беларускага рэлігійнага кантэксту больш чым на паўтара стагоддзя.

Таму будучая беларуская царква ў Лондане мусіць стаць не проста функцыянальным памяшканнем, але і своеасаблівым помнікам беларушчыне, увасабленнем беларускага духу і адлюстраваннем беларускай культуры.

Рафаэль, як нашага героя найчасцей завуць у Лондане, можа гаварыць пра Беларусь гадзінамі. Згадваючы пра беларусаў, ён падсвядома прамаўляе "мы", перапрашае за агаворку і праз нейкі час зноў паўтараецца. І не дарма. Прачытаўшы інтэрв'ю, вы можаце не паверыць, што чалавек, які большую частку жыцця пражыў у іншым вымярэнні, мае настолькі яснае ўяўленне пра беларускі феномен. Падобным могуць пахваліцца нямногія беларусы. Таксама нячаста пабачыш, каб суайчыннікі рабілі грамадскую справу з такім імпэтам, натхненнем і верай у вынік. "Трэба ўлезці ў галаву беларусаў, каб зразумець, ці спадабаецца ім мой праект, ці адпавядае ён беларускім традыцыям", — увесь час паўтарае Рафаэль. Ці многія ягоныя беларускія калегі пераймаюцца падобным?

*Паводле Кастуся Лашкевіча, "Тут і цяпер"*

*Гутарку цалкам чытайце на сайце zbsb.org*

## БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ "БЯЗМЕЖЖА"

У сярэдзіне снежня на Беласточчыне адбылося літаратурнае "Бязмежжа-2012", якое арганізоўвае Праграмная рада Тыднёвіка "Ніва" і Беларускі Саюз у Польшчы. У штогадовых літаратурных сустрэчах удзельнічаюць каля 30 літаратараў з Беларусі і Польшчы. Цягам трох дзён літаратурнага "Бязмежжа" прайшлі сустрэчы, майстар-класы і семінары ў Беластоку, Гайнаўцы, Новым Ляўкове.



Сярод сёлетніх імпрэзаў – прэзентацыя праектаў, якія цесна звязаныя з літаратурай, напрыклад, прэзентацыя дакументальнага кіно Міколы Ваўранюка пра народнага паэта з Беласточчыны, прэзентацыя новай кнігі даследчыцы беларускай культуры Лены Глагоўскай, прэзентацыя кнігі ўспамінаў Ларысы Геніюш "Птушкі без гнёздаў", якая нядаўна, дзякуючы Беларускаму гістарычнаму таварыству, выйшла ў Польшчы папольску, бардаўскія прэзентацыі Алеся Камоцкага, Тацціяны Беланогай, Эдуарда Акуліна. У імпрэзах з боку Беларусі таксама бралі ўдзел Барыс Пятровіч (Сачанка), Алесь Пашкевіч і Алесь Плотка.

Літаратурнае "Бязмежжа" завяршылася падсумаваннем 15-га літаратурнага конкурсу "Дэбют", які праводзіць тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва". Першае месца сярод дарослых у катэгорыі "Проза" было прызнанае рэдакцыйнай сяброўцы "Нівы" Улі Шубздэ.

У сёлетнім конкурсе бралі ўдзел 47 чалавек. Першае месца ў катэгорыі пачатковых школаў ды гімназіі было прызнана Лукашу Марчуку з Нараўкі. Сярод дарослых першае месца ў катэгорыі "Паэзія" атрымаў Станіслаў Дамброўскі з Сафіполя ў гміне Гарадок.

*Паводле "Радыё Рацыя"*

## АКЦЫІ САЛІДАРНАСЦІ ДА ЎГОДКАЎ ПЛОШЧЫ

У цэнтры Варшавы, на Замкавай плошчы, палітычныя ўцекачы з Беларусі, былыя палітвязні і сваякі палітвязняў 19 снежня 2012 года зладзілі акцыю, прымеркаваную да другіх угодкаў Плошчы.



Марына Адамовіч, жонка дагэтуль зняволенага кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, апавяла: "Цяпер знаходжуся ў сімвалічнай клетцы. Тут таксама сваякі палітвязняў, уцекачы. Нас некалькі дзясяткаў. Трымаем у руках партрэты палітвязняў, бел-чырвона-белыя сцягі. Шмат хто падыходзіць, цікавіцца, што азначае гэтая клетка. Мы кажам пра Беларусь, якая два гады таму выйшла на Плошчу".

Перад акцыяй у Беларускім доме ў Варшаве прайшла прэс-канферэнцыя, у якой удзельнічалі еўрадэпутат Марэк Мігальскі, былыя палітвязні Наталля Радзіна, Зміцер Бандарэнка, Аляксандр Атрошчанкаў, палітуцякач Зміцер Бародка і Марына Адамовіч. Удзельнікі прэсавай канферэнцыі зноў запатрабавалі неадкладнага вызвалення ўсіх беларускіх палітвязняў.

У Празе на Старамесцкай плошчы таксама адбылася акцыя салідарнасці з палітвязнямі. У ёй бралі ўдзел некалькі дзясяткаў чалавек. Паводле словаў адной з арганізатараў акцыі старшыні грамадзянскай кампаніі "Наш Дом" Вольгі Карач, такія акцыі салідарнасці неабходныя, каб увесь час нагадваць беларусам, што яны не адныя, і адначасова нагадваць міжнароднай супольнасці пра праблемы ў Беларусі.

19 снежня беларускія эмігранты Францыі правялі пікет у Парыжы, каб выказаць салідарнасць з палітычнымі вязнямі Беларусі.

Сваю падтрымку прыйшлі таксама выказаць прадстаўнікі анархісцкага руху Францыі, Amnesty International, а таксама французскія грамадзяне, неабыякавыя да таго, што адбываецца ў Беларусі.

*Паводле nn.by, "Радыё Рацыя", Хартыя`97*

# ЯКАЯ БЕЛАРУСКАЯ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ ПАТРЭБНАЯ АФІЦЫЙНАМУ МІНСКУ?

Нядаўнія адмовы з выдачай візаў для ўезду ў Беларусь актыўным дзеячам беларускай меншасці ў Польшчы Лене Глагоўскай і Яўгену Вапу, здавалася б, мелі шараговае значэнне, бо кожная дзяржава мае права самастойна вырашаць, каго ўпускаць на сваю тэрыторыю. Аднак у шырэйшым кантэксце палітыкі беларускіх уладаў датычна суайчыннікаў за мяжой і сітуацыі беларускай меншасці ў Польшчы гэтыя адмовы маюць істотнае значэнне.



*Лена Глагоўская*

Першай, каму адмовілі ў выдачы візы, была вядомы гісторык Лена Глагоўская, якая апрача навуковай дзейнасці ў сферы беларускіх даследаванняў узначальвае Беларускае культурнае таварыства "Хатка" ў Гданьску, якое стала ладзіць беларускія канцэрты, літаратурныя сустрэчы, мастацкія выставы, дбае пра захаванне беларускай нацыянальнай памяці ў Польшчы. Лена Глагоўская мела ўзяць удзел у міжнароднай канферэнцыі "Людзі даўняй Гародні", якую ладзіла Таварыства беларускай школы ў межах штогадовых Дзён святога Губерта, апекуна Гродна. Глагоўская мела выступіць з спавешчаннем пра Аляксандру Бергман. Гэтая ўраджэнка Гродна і дзяячка КПЗБ стала першай у паваеннай Польшчы даследніцай гісторыі Беларусі, аўтаркай кнігі пра Браніслава Тарашкевіча і пра беларускія справы ў міжваеннай Польшчы. Акрамя канферэнцыі, Глагоўская мела наведаць могілкі сваякоў, якія пахаваныя на беларускім боку мяжы. Гэтыя падставы прадстаўнікі Беларускага консулату ў Беластоку палічылі недастатковымі, і 25 кастрычніка Глагоўскай было адмоўлена ў выдачы візы ў Беларусь.

Сітуацыя з Глагоўскай выглядае праявай змены палітыкі беларускіх уладаў да ўмоваў развіцця гістарычнай навукі ў краіне. Як падкрэслівае Глагоўская, ёй дагэтуль ніколі не адмаўлялі ў візе для ўдзелу ў канферэнцыях у Беларусі, апошні раз яна атрымала беларускую візу сёлета ў чэрвені на запросіны музея Янкі Купалы. Глагоўская кажа: "Усе мы ведаем, які падыход да гісторыі ў сучаснай Беларусі. Я гадамі займаюся тым, што адкрываю невядомыя старонкі гісторыі Беларусі. Але, відаць, яны нікому не патрэбныя". З гэтым цяжка не пагадзіцца, тым больш, што Глагоўская – чалавек, які займаецца выключна навукай і не заўважаная ў непасрэднай ці ўскоснай заангажаванасці ў палітычную дзейнасць. Пры гэтым, заяўленая ёй тэма канферэнцыйнага спавешчання, прысвечаная біяграфіі Аляксандры Бергман, наўрад ці ствараe хоць нейкі канфлікт з пазіцыяй афіцыйнай беларускай гістарычнай навукі. Таму адмову ў візе для Глагоўскай можна ўспрымаць менавіта як працяг наступу беларускіх уладаў на незалежныя гістарычныя даследаванні ў Беларусі, чаму папярэднічалі падзеі вакол "Гродназнаўства" і ARCHE. Іншая рэч, што ў дадзеным выпадку сітуацыя выходзіць за межы Беларусі і наўпрост закранае палітыку Беларусі датычна суайчыннікаў за мяжой, а канкрэтна – беларускай меншасці ў Польшчы.

Неўзабаве гісторыя Глагоўскай паўтарылася вакол Яўгена Вапы, старшыні Управы Беларускага Радыё Рацыя і старшыні Беларускага саюза ў Польшчы. 20 лістапада той самы консулат у Беластоку адмовіў Вапу ў атрыманні доўгатэрміновай візы дзеля ўезду ў Беларусь. Сябра Кансультатыўнай рады па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Беларусі Яўген Вапа меў запрашэнне ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", у склад Вялікай Рады якога ён уваходзіць (як таксама і Глагоўская). Сітуацыя з Вапам мае шэраг акалічнасцяў, на якія варта звярнуць увагу.

Па-першае, 23 траўня мінулага года Яўгену Вапу беларускія памежныя службы анулявалі дзейную беларускую візу і забаранілі ўезд у Беларусь. З таго моманту да адмовы ў візе Алене Глагоўскай выпадкаў адмовы ва ўездзе ў Беларусь вядомым прадстаўнікам беларускай меншасці ў Польшчы не было.

Па-другое, у міжчассі паміж адмовай ва ўездзе ў траўні 2011 г. і падачай дакументаў на атрыманне беларускай візы, што мела вынікам адмову ў яе выдачы, "Бацькаўшчына" спрабавала даведацца на прычыны такога рашэння беларускіх уладаў, пераканаўшы Яўгена Вапу "паралельна напісаць у Міністэрства замежных справаў просьбу-хадайніцтва пра перагляд рашэння паануляванні візы, каб з'явілася магчымасць атрымаць новую". Пры гэтым Бацькаўшчынай" падкрэслівалася неабходнасць наяўнасці рэгулярных стасункаў паміж Беларуссю і беларускай меншасцю ў Польшчы.



*Яўген Вапа*

Па-трэцяе, каментуючы адмову ў візе, Яўген Вапа звярнуў увагу на тое, што "адмаўленне ў атрыманні візы выразна паказвае, што беларусы, якія жывуць па-за межамі духоўнай Бацькаўшчыны, не могуць мець іншых поглядаў, якія адрозніваюцца ад тых, што мае ўлада, якая зараз трымае ўсе рычагі ў сваіх руках". Пры гэтым цалкам натуральнае жаданне беларусаў замежжа ўдзельнічаць у дыскурсе наконт развіцця краіны праз тыя ці іншыя ацэнкі дзейнасці беларускіх уладаў ёсць прычынай для падзелу. Інакш кажучы, выглядае, што для беларускіх уладаў важныя не дасягненні ці праблемы беларусаў замежжа, але іх лаяльнасць да афіцыйнага Мінска.

Сітуацыя з Вапам і Глагоўскай толькі падмацоўвае тэзу, што ў выпадку беларускай меншасці ў Польшчы згаданы вышэй падзел на "сваіх" і "чужых" асабліва актуальны. Варта нагадаць, што 26 сакавіка 2012 г. Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Польшчы Яна Сычэўскага з 75-годдзем, падкрэсліўшы што "імкненне быць беларусам і за межамі сваёй Айчыны заслугоўвае самай глыбокай

➲

павагі" і заявіўшы, што "Рэспубліка Беларусь зробіць усё, каб беларусы замежжа адчувалі любоў і падтрымку Радзімы".

З праекцыяй на Падляшша і беларускую меншасць у Польшчы гэтая "любоў і падтрымка" выглядае даволі акрэслена. Шматгадовы кіраўнік БГКТ, найстарэйшай дзейнай беларускай арганізацыі ў Польшчы, Ян Сычэўскі з'яўляўся неаднаразовым удзельнікам "Усебеларускіх народных сходаў" і з абодвух бакоў беларуска-польскай мяжы вядомы сваімі заявамі ў падтрымку курсу цяперашняга кіраўніка беларускай дзяржавы. Відавочна, што ў выніку такой дзейнасці Сычэўскага значная частка беларускай грамады ў Польшчы нічога супольнага з ім мець не хоча. Пакінем развагі наконт падтрымкі дзейнасці Сычэўскага беларусамі Польшчы па-за межамі артыкула, але зазначым іншую акалічнасць: у дзейнай супольнай Камісіі Ураду Польшчы і нацыянальных і этнічных меншасцяў, створанай згодна з польскім законам "Аб нацыянальных і этнічных меншасцях, і рэгіянальнай мове", беларускае прадстаўніцтва складаецца з двух чалавек – Яўгена Вапы (Беларускі Саюз ў Польшчы) і Яна Сычэўскага (БГКТ), што адлюстроўвае магчымы плюралізм меркаванняў беларускай супольнасці ў Польшчы. А вось з боку афіцыйнага Мінска гэтага плюралістычнага падыходу не назіраецца. Адным з доказаў такога падзелу на "сваіх" і "чужых" ёсць адсутнасць інфармацыі пра іншыя чымся БГКТ арганізацыі (за выняткам Музея і цэнтра беларускай культуры ў Гайнаўцы) у рубрыцы "Суайчыннікі" на сайце Апарата Упаўнаважанага па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, наўрад ці такі выбарлівы падыход беларускіх уладаў датычна беларускіх арганізацыяў у Польшчы сведчыць пра ўсеаб'емную "любоў і падтрымку Радзімы", што дэкларуецца беларускімі ўладамі. Наадварот, згаданы падзел беларусаў Падляшша на "сваіх" і "чужых" з боку беларускіх уладаў не толькі спрыяе расколу, але і не спрычыняецца да эфектыўнай маральнай дапамогі з боку метраполіі этнічнай супольнасці, сітуацыю якой Ян Максімюк справядліва акрэсліў "дэмаграфічнай катастрофай", надалей пакідаючы яе сам-насам з собскімі праблемамі.

*Гэты артыкул з'явіўся па-ангельску ў Belarusian Review, Vol. 24, No. 4.*
*© 2012 The_Point Journal/Belarusian Review*

*Кірыл Касцян, thepointjournal.com*

## "Перадсвяточная казка" беларускай мастачкі ў Варшаве

Выстава твораў беларускай мастачкі Зінаіды Фядзюнінай пад назвай "Перадсвяточная казка" адкрылася 12 снежня ў Варшаве ў Культурным цэнтры Беларусі, які працуе пры амбасадзе РБ у польскай сталіцы. Экспазіцыя складаецца з баціку і алейнага жывапісу. Назва выставы актуальная – "Перадсвяточная казка".

Творы Зінаіды Фядзюнінай і сапраўды пасуюць да перыяду перад Калядамі і Новым годам: у іх многа яркіх колераў, нейкай магіі, яны пераліваюцца, як елачныя шары альбо снег пад сонцам.

Дарэчы, спадарыня Зінаіда займаецца не толькі выяўленчым мастацтвам: яна стварае таксама вопратку, прычым шаўковую, і распісвае яе адмысловымі фарбамі. Атрымліваецца лёгкае каляровае адзенне.

Культурны цэнтр Беларусі плануе паказаць творы Зінаіды Фядзюнінай яшчэ ў некалькіх польскіх гарадах.

*Паводле "Польскага радыё для замежжа"*

# ВІНШАВАННІ

## Віншаванне сябраў Вялікай Рады



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў студзені: Анатоля Грыцкевіча (Беларусь), Вольгу Іпатаву (Беларусь), Мікалая Купаву (Беларусь), Аляксандра Лагвінца (Беларусь), Ніну Шыдлоўскую (Беларусь), Яўгена Янчука (Польшча), Віктара Сулкоўскага (Расія), Георгія Плашчынскага (Расія) і Зінаіду Клыгу (Эстонія).

Зычым добрага здароўя, радасці, шчасця, усяго самага светлага і пазітыўнага!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Віншуем з Калядамі і Новым годам!




Шаноўныя сябры!

Ад імя Управы і супрацоўнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуем усіх беларусаў на Радзіме і ў замежжы з Калядамі і Новым годам!

Хай нават у самыя моцныя маразы вашыя сэрцы саграваюць усмешкі родных і сяброў, хай у вашых хатах будзе цёпла і ўтульна, а пад вашымі стрэхамі паселіцца птушка шчасця.

Жадаем вам гармоніі з сабой і сусветам, духоўнай моцы і здароўя, святочнага настрою і натхнення, радасці і дабрабыту!

Будзьма беларусамі! Будзьма разам у Новым, 2013, годзе!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Мастак: Святлана Канькова-Дударэнка kankowa-dudarenka.sv@yandex.by*

# АНТОН САБАЛЕЎСКІ (1926–2012)



Не стала Антона Сабалеўскага, аднаго з ключавых людзей беларускага жыцця ў Маскве ад канца 1980-х. Ён адзін з тых, дзякуючы чыім шматгадовым намаганням у цэнтры Масквы з'явіўся помнік Янку Купалу.

Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў Глыбокім у сям'і беларускамоўных настаўнікаў і актывістаў нацыянальнага руху. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Да 1981 г. служыў у войску, даслужыўся да ступені палкоўніка. Пасля адстаўкі працаваў у нафтагазавай прамысловасці. У Маскве жыў з 1952 года.

У 1989 годзе Антон Сабалеўскі быў сярод заснавальнікаў, а потым — шматгадовым членам Рады маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Скарыны — найстарэйшай дзеючай арганізацыі беларускай дыяспары ў Маскве.

Адзін з ключавых людзей, дзякуючы чыім шматгадовым намаганням у цэнтры Масквы, на адной з самых ажыўленых вуліц, у сярэдзіне 2000-х гадоў паўстаў помнік Янку Купалу.

За ўласныя грошы выкупіў і падараваў бронзавую статую Янкі Купалы (адзін з эскізаў да маскоўскага помніка) этнаграфічнаму музею свайго роднага Глыбокага.

Памятаю, на З'ездзе беларусаў свету 2005 года на трыбуну выйшаў нейкі расійскі чыноўнік у дарагім гарнітуры і неахвотна прабачыўся перад публікаю: "Я двадцать лет живу в Москве и уже забыл родную мову". Пасля ягонага выступу на трыбуну імкліва ўзышоў спадар Сабалеўскі і пачаў сваю прамову словамі: "Я жыву ў Маскве ўжо пяцьдзясят гадоў. Але беларускую мову не забыў".

Паболей бы такіх людзей. Светлая памяць.

*Алесь Чайчыц, "Наша Ніва"*

Антон Сабалеўскі быў сябрам Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў 2001–2009 гадах. Выказваем шчырыя спачуванні яго родным, блізкім і сябрам. Вечны супакой яго душы.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# 10-ГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ БАТЛЕЙКІ Ў ЛОНДАНЕ

У сярэдзіне снежня ў сядзібе Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага "Марыйным доме" (Marian House) у Лондане адбылося першае з традыцыйных калядных мерапрыемстваў — беларуская батлейка. "Роўна 10 гадоў таму ў парыжскай кватэры Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі адшукалася скрыня з лялькамі, — расказвае лонданскі праўнік, сябра рады Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі Павал Шаўцоў. — Тады я прапанаваў зладзіць на Каляды адмысловы паказ батлейкі".

Адмысловец у беларускай абрадавай традыцыі Караліна Мацкевіч знайшла сярод бязмежных скарбаў найвялікшай за мяжой лонданскай Беларускай бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны пісьмовыя прыклады батлеек з розных рэгіёнаў Беларусі. Дыялектныя разыходжанні беларускай мовы былі адаптаваныя да сучаснага маўлення. Дэбютны паказ займеў вялікі поспех сярод беларускай лонданскай грамады і яе брытанскіх сяброў.

"Мы давалі калядныя прадстаўленні два гады, але раптам аб'явіўся ўладальнік лялек, які запатрабаваў калекцыю назад,— кажа Павал Шаўцоў. — Паколькі знайсці замену выявілася не так проста, нам давялося замовіць новыя лялькі ў Беларусі".

На дапамогу суайчыннікам прыйшла беларуская мастачка Алена Ткачова. На Каляды 2004-га абноўленая батлейка зноўку сабрала грамадскую залу Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага. З таго часу паказы адбываюцца штогод.

*Паводле "Тут і цяпер"*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА

1 студзеня – 80 гадоў таму, у 1933-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Родны край", орган Таварыства Беларускай Асветы (выдавалася да 29 лістапада 1936 г.).

3 студзеня – 105 гадоў таму ў Варшаве нарадзіўся Мікола Нікан (1908–1999) настаўнік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі.

3 студзеня – 95 гадоў таму, у 1918-м, Рада Усебеларускага з'езда абрала Выканаўчы камітэт.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.

12 студзеня – 125 гадоў таму ў в. Слойнікі (цяпер Сакольскі пав. Падляшскага вaяв., Польшча) нарадзіўся Дамінік Аніська (1888–1971), ідэолаг і ўдзельнік хрысціянскага руху, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

13 студзеня – 420 гадоў таму, у 1593-м, у Вішневе (Валожынскі р-н) памёр (паводле іншых звестак быў забіты) Сымон Будны, мысляр эпохі Адраджэння, асветнік, друкар. Нарадзіўся каля 1530 г.

14 студзеня – 120 гадоў таму ў Вільні Нарадзілася Канстанцыя Буйло (па мужу Калечыц; 1893–1986), паэтка.

21 студзеня – 35 гадоў таму Памёр Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк; 1922–1978), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі. Пахаваны на беларускай частцы могілак Фолкнер ў Мельбурне (Аўстралія).

22 студзеня – 150 гадоў таму, у 1863-м, пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне.

23 студзеня – 75 гадоў таму ў Саратаве расстраляны Вацлаў Ластоўскі (1883–1938), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст, этнограф.

25 студзеня – 75 гадоў таму ў Празе памёр Тамаш Грыб (1895–1938), грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

28 студзеня – 425 гадоў таму, у 1588-м, зацверджаны Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага.

28 студзеня – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Буэнас-Айрэсе заснавана Згуртаванне беларусаў у Аргенціне. Першы старшыня – Кастусь Мярляк.

31 студзеня – 100 гадоў таму, у 1913-м, у Гародні выйшаў альманах вучнёўскай беларускай моладзі "Колас беларускай нівы".

**Беларусы ў свеце**
№12(128), снежань 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27